ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1521) ГОД XXX БЕЛАСТОК 7 ЛІПЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.

## Пяць дзён у гасціне

### ДРУГОГА ДНЯ

Гродна — самы старажытны горад на Нёмане, і яго жыхары не толькі ганарацца гэтым, але і з дбайнасцю ахоўваюць даўніну, прадаўжаюць яе век. Болей таго: тут умела спалучаюцца самыя лепшыя традыцыі мінулага з сучаснасцю ў адзінае русло бурлівага развіцця гэтага цэнтра з амаль чвэрцьмільённым насельніцтвам. Такая была наша першая спасцярога з другога дня гасцявання ў гродзенскіх сяброў.

Ранак адкрываў нам вельмі сціплы па форме, але надта ж шматзначны і велічны сваім зместам і манументальнасцю помнік, узведзены ў 1978 годзе ў гонар 850-годдзя Гродна, а дакладней: першага ўпамінання пра яго ў летапісах пад 1128 годам, бо горад паўстаў некалькімі стагоддзямі раней. Помнік выглядам нагадвае лязо сярэднявечнага мяча. У падставе гэтага, вышынёй у 40-50 метраў манумента, як быццам бы яго дзяржанне, стаяць дзве фігуры: з усходу — беларуская дзяўчына ў народным строі і з ручніком у руках, а з захаду — закаваны ў зброю і са шчытом у руках магутны сярэднявечны вой, які, абапершыся на шчыт, пільна ўзіраецца ўдаль. Цяжка пра больш трапнае ўвасабленне гістарычнай ролі Гродна, якое заўсёды было абаронным мячом і ахоўным шчытом ад агрэсіі на беларускія землі. На заранку свайго існавання яно адбівала напады яцвягаў і літоўцаў, потым было надзейнай апорай супраць крыжацкага націску, а ў апошнія стагоддзі — фарпостам ад нямецкай навалы. Узвышаецца гэты сімвал цвердзі на Нёмане ў самым высокім пункце горада, на стромкім правым беразе ракі. Відаць яго за некалькі кіламетраў ад Гродна.



Беларуска. Помнік у гонар 850-годдзя Гродна.

А побач усяго ў некалькіх дзесятках крокаў, над самай нёманскай стромай, у засені клёнаў-старэчаў, дрэмле самы старажытны і самы каштоўны помнік беларускай архітэктуры на Панямонні — Барысаглебская (Каложская) царква з XII стагоддзя.

Я спяшаюся на спатканне з ёю, як з самай блізкай мне істотай — сведкам і героем падзей з майго „Шляхам гадоў". Перабягаю па мураве царкоўнага пляца і прыпадаю рукамі і тварам да свяшчэннай сцяны. Кранаю змуршэлую ад старасці сярэдневяковую цэглу-плінфу гладжу адшліфаваныя і ўкладзеныя ў сцяну мажныя камені, цяжка мне адвесці зрок ад каляровай палівы здобін. Якія ж бляклыя і непраўдзівыя ўсе апісанні ды нават каляровыя здымкі гэтага шэдэўра мастацтва нашага сярэднявечча ў супастаўленні з яго сапраўдным выглядам! Толькі цяпер магу ўявіць сабе тое адметнае хараство тадышніх цэркваў, харомаў, абаронных збудаванняў, якія ўзвышаліся ў Гродне, Ваўкавыску, Брэсце, а таксама ў нашых: Драгічыне, Мельніку, Суражы, Гарадку і іншых гарадскіх асяроддзях у часы Гарадзенскага, Дарагічынскага і Берасцейскага княстваў...

З роздумаў будзяць мяне воклічы маіх сяброў, якія надзіваўшыся толькі з-за агарожы адметнай прыгажосцю Каложы, спяшаюцца зірнуць на іншыя славутыя помнікі Гродна. І я не магу паўстрымацца ад непрыстойнага ўчынку: падымаю з зямлі і хаваю ў кішэні маленечкі абломак сярэднявечнай плінфы. Вельмі ж прагну, каб ён быў пры мне на пісьмовым стале, за якім праходзяць усе мае самыя плённыя ранкі і вечары. І вось ён — ружававы асколак нашай велічнай мінуўшчыны — ляжыць побач і тхне своеасаблівым цяплом, калі я пішу гэтыя словы. Чаму гэта непрыстойнасць? А што ж засталося б ад Каложы, калі б кожны яе наведвальнік забраў з сабою крышынку цэглы або дробку зямлі? Іх жа бывае тут сотні тысяч...

А праз некалькі хвілін „волга" „Гродзенскай праўды" перакідвае нас з правага на левы бераг колішняй рэчкі Гараднічанкі, ад якой застаўся толькі глыбокі яр, і мы ўжо ў Старым замку, дзе памяшчаецца Гродзенскі гісторыка-краязнаўчы музей.

З 1922 г. музейны, а ўжо ты-

(Працяг на стар. 6)

## Гутарка Дзядзькі Максіма

### Сырадой

Дальбог, думаў, што прыб'ю гэтую сваю старую, значыць Палашку, так яна мяне ў нервы ўвяла. Цэлы дзень я троcся на варочалцы, каб хаця крыху выратаваць гэтага сена, якое так бязлітасна мачыў дождж амаль два тыдні, а яна ў мяне недзе прапала.

Божа мой, што за пагода выпала ў гэтым годзе для нас, бедных хлебаробаў! Сапраўды, як у той песеньцы, у якой спяваецца, што пагода заўжды бывае толькі для багацеяў, якія не аруць, не сеюць, а ўсё маюць. Для нас жа, грэшных сялян, адно толькі кіслы сырадой.

Найперш спазнілася вясна, што з ярыной і пасадкай бульбы ледзь мы ўправіліся. Пасля крыху прыгрэла сонца, а затым пад канец мая і сапраўдная летняя спёка настала ў не сваю пару. Трава хутка адскочыла і, хто здолеў дарвацца да навозаў ды шчодра падсыпаў імі сваю сенажаць, мог спадзявацца на багаты першы ўкос, а яшчэ і на другі, і на атаву мог разлічваць. Зялёнай пашы, па яе вартасці, няма роўных. Гэта поўныя конаўкі духмянага сырадою. Толькі трэба не дапусціць, каб яго дажджы выпаласкалі. І таму мы паспяшаліся з касьбой. Зноў прыйшлося ў эскаэраві за рацыйкі змагацца. І калі зялёная трава ляжала ўжо тоўстымі пракосамі, а па наваколлі разносіўся любы майму сэрцу пах крыху падсушанага сена, калі я гэтае багацце пералічваў ужо на літроўкі сырадою і на грошы, тады Усемагучы, відаць, разгневаўся на нас грэшных за ўсялякую подласць цяперашняга свету і наслаў на нас халодны, пранізлівы дождж. Як на Тройцу пачалося, дык цягнулася, здавалася, бясконца, аж да святога Фядота, які ў календары на трэцім тыдні чэрвеня. „Быў бы і Фядот, але ня тот!" — як кажуць у народзе. Якраз у гэты чацвер, ужо зранку, сонца весялей заіграла і трава расой заіскрылася, а гэта бясспрэчная прыкмета, што пагода прыгожая будзе. Дык я хутчэй сваю кабылку ў аглоблі і з варочалкай — на сенажаць, каб сена з вады вырваць. Цэлы дзень я там мучыўся, падскокваў, гайдаўся, што і ў пекле горш чэрці мяне трасці не будуць. Там, дзе раней трактар з

(Працяг на стар. 4)

## НА МЯЖЫ

### АБ ПРАМІНАННІ (IV)

Калі вядома, што чалавек не мае ніякага ўплыву на прамінанне, дык можа здавацца, што ўсе нашы роздумы над ім не маюць сэнсу. Такі вывад выглядае правільным тым больш, што доўгія роздумы над прамінаннем выклікаюць сумныя настроі, даводзяць нас да песімізму і безнадзейнасці.

Думаецца мне, што такія роздумы ачышчаюць псіхіку чалавека, робяць яго больш альтруістычным і высакародным. Чаму? Таму, што задумоўваючыся над адвечным працэсам прамінання, якое заўсёды і ўсюды заканчваецца адным — смерцю, даходзім да вываду, што ўсе нашы імкненні, кар'еры, славы, зайздрасці і нянавісці не маюць сэнсу. У канцы канцоў толькі тут, на зямлі, на працягу кароткага часу, можам здабыць перавагу над нашымі праціўнікамі і ворагамі, можам перамагчы або нейтралізаваць нашых непрыяцеляў. Тут, на зямлі, у абліччы смерці становімся ўсе роўныя. Сярод канаючых няма ўжо пераможцаў і пераможаных. Такая ж роўнасць чакае нас і пасля смерці, а калі верым словам „Бібліі", дык для пераможцаў і багацеяў перспектывы намнога горшыя, чым для пераможаных і бедных. У „Бібліі" выразна сказана, што хутчэй пралезе вярблюд праз іголкава вушка, чым багаты трапіць у рай. Нягледзячы на такую перспектыву, амаль усе людзі імкнуцца да ўзбагачэння. Як не дзіўна, але сярод такіх людзей не мала і духоўных.

Калі спаўняецца прароцтва „Бібліі", то несумненна ў пекле апынецца найболей амерыканцаў, немцаў, шведаў і швейцараў — бо яны найбагацейшыя. На шчасце, параўнаўча будзе там мала беларусаў, бо ў ніякім выпадку да найбагацейшых грамадстваў і народаў мы не належым.

Можа хтосьці падумаць, што я тут прапаведую філасофію пакорлівасці, непраціўлення злу, жыццёвага мінімалізму, крайняй уступчывасці, абмежаваных імкненняў, недахопу амбіцый.

З вельмі асноўных прычын не мог бы я згадзіцца з такім поглядам. Асноўныя ж прычыны — гэта характар майго ўласнага жыцця, у якім не мала было канфліктаў з іншымі людзьмі і амбіцыянальных імкненняў. Аднак не чужыя мне і такія недахопы як: любоў да грошай, зайздрасць, ахвота стаць лепшым, чым хтосьці іншы.

Якраз з гэтых прычын не магу прапаведваць філасофіі ўбоства, падпарадкаванасці, бязмежнай лагоднасці, татальнага прабачэння і пакорлівасці.

**І ўсё ж такі, дарагія чытачы, прамінанне павінна лагодзіць нашу драпежнасць, агрэсіўнасць, нянавісць. Думаючы аб ім, няхочучы думаем аб тым, што мы на зямлі не вечныя, а калі так, дык нельга і няма сэнсу „вечна" думаць аб тым, як уласнае жыццё накіроўваць супраць жыцця іншых. Наадварот, усведамленне прамінання напамінае нам аб хвіліннасці нашага жыцця, аб яго часовасці. І адзіная з'ява, якая можа яго ўпрыгожыць, — гэта зразуменне, што чужыя рацыі, імкненні, амбіцыі таксама важныя, як і рацыі, імкненні і амбіцыі нашыя. Зразумела, што чалавек, хоць цяжка яму да гэтага прызнацца, не можа іншых кахаць так, як кахае сябе. Было б аднак добра, калі б усвядомленае прамінанне памагло нам крыху болей кахаць іншых і крыху меней кахаць сябе.**

**Алесь Барскі**

## НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

### ЯРМАРКА МАРАЛІ

У гэтым годзе аматары эстрады ў ЗША шырока адзначаюць 50-годдзе з дня нараджэння знакамітага спевака, „караля рока" Элвіса Прэйслі. Ён аж сем год не дажыў да свайго пачэснага юбілею, бо, як кажуць суайчыннікі, дачасна, у росквіце свайго непаўторнага таленту згарэў на сцэне.

Сапраўды, Элвіс Прэйслі дзеля мастацтва не шкадаваў сябе і свядома ахвяраваў здароўем, у пагоні за поспехам рэгулярна прымаючы допінг, зрабіўся невылечным наркаманам. Затое яго істэрычныя выступленні даводзілі публіку да псіхозу і шаленства. Ён належыць да тых людзей, чыя слава не памерла разам з яго фізічнай смерцю. Любая драбяза, якая раней належала вядомаму артысту, зараз ахвотна купляецца за вялікія грошы. Дом, дзе жыў Прэйслі, зрабіўся сапраўдным музеем, куды ідуць натоўпы багатых турыстаў, каб пакінуць там тысячы долараў, а дзялкі не ўпускаюць выпадку, каб нажыцца на былой, няхай сабе і скандальнай, славе артыста. Зараз тым больш яго юбілей спаўна пастаўлены прадпрымальнікамі на службу бізнесу. У доме Прэйслі у г. Мемфісе ўрачыстыя святочныя мерапрыемствы.

І няцяжка зразумець, якія тут бываюць госці: білет на першым прыёме каштаваў 500 долараў. Тут жа вядзецца шырокі продаж цікаўным турыстам здымкаў і памятных рэчаў нябожчыка Прэйслі. Дзялкі абставілі гэтае мерапрыемства як мае быць, з помпай. Быць гаспадыняй на ўсіх цырымоніях угаварылі былую жонку Прэйслі, Прэсцілу. Гэта нічога, што яна пакінула наркамана мужа за чатыры гады да яго смерці, нічога, што Элвіс і Прэсціла аблівалі пры жыцці адзін аднаго граззю, што пра іх сямейныя скандалы пісала прэса. Прэсціла ўсё ж былая жонка, а значыць, і ведае гэтага знакамітага чалавека лепш за многіх іншых. І хаця Прэсціла ў давераных колах і зараз часта нядобрым словам успамінае нябожчыка, яна ўсё ж пагадзілася на першую ролю ў правядзенні юбілейных цырымоній, бо гэта абяцае ёй добры навар. Ахвотна выступае па тэлебачанні з расказамі аб Элвісе Прэйслі і такім чынам, апрача грошай, мае для сябе добрую рэкламу ў свеце кіназорак. Дастаткова сказаць, што толькі за тэлеперадачу яна атрымала ад тэлекампаніі 100 тысяч долараў. Затое ж яна і стараецца дагадзіць людзям як мае быць, вынесла на ярмарку бізнесу усё, што можна, нават сумленне і сваю чалавечую годнасць. Водзячы гасцей па ўсіх памяшканнях дома, які багата абстаўлены і ўпрыгожаны ў духу бліскучага сучаснага побыту мільянераў, Прэсціла падоўгу затрымлівае экскурсіі ў музычным пакоі, дзе Прэйслі рыхтаваўся да выступленняў, і асабліва ў спальні, дзе расказвае аб пікантных падрабязнасцях з сумеснага жыцця і нават дэманструе ўмантыраваны ў люстру кінапраектар, з дапамогай якога Элвіс Прэйслі праглядаў перад сном парнаграфічныя і каўбойскія кінастужкі, не лепшага гатунку часопісы і спецвыпускі, расказвае, як ён танізаваў сябе наркотыкамі.

Адным словам, зарабляць дык зарабляць.

**А.С.**



„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-85". Калектывы з Беластока (зверху) і Чаромхі — два раўназначныя другія месцы сярод калектываў сучаснай песні. Фота М. Гайдука.



# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 314

* ✲ *

*Сонца круг чырвоны*
*за лесам багацця*
*сумнасць вечара*
*без дзедавых думак*
*ціхасць ночы жнівеньскай*
*што сцеле на маіх грудзях*
*сон зялёны*
*голас маці пераплецены марамі*
*аб шчасці*
*вечная прыстань*
*старая страха*
*з гняздом ластаўкі*
*магу сэрца тут схаваць*

**Я. Шостак**

* ✲ *

Я зноў імкнуся да краіны.
Там, дзе юнацтва ўсё правеў,
Дзе зззяюць кветкамі даліны,
Дзе свежы пах дзьме ад лугоў,

Дзе чырванее канюшына
І дзе сваволяць матылькі,
Там, дзе пад небам светла-сінім
Ласкаюць вочы васількі.

Дзе лесу шум мне бойкі шэпча,
Спявае песні птушак хор,
А паднябесным трэлям пеўчых
Дапамагае рэхам бор.

Там, дзе з раскошаю спаткаю
Маіх знаёмых і сяброў,
Дзе песні даўнія спяваюць
На мове дзедаў і бацькоў.

Там буду мець я перапынак.
Ад розных спрэчак і хлусні,
І мець кароткі адпачынак
Ад непрыемнай мітусні.

Імкнуся я да светлай волі,
Да родных ціхіх берагоў,
Дзе я і ў долі і ў нядолі
Калісь юнацтва ўсё правеў.

**Д. Шатыловіч**

* ✲ *

*Калі ў жыцці*
*нарэшце знойдзеш сваё месца —*
*— не забывай,*
*што меў сяброў.*
*Не, я не чакаю твае дапамогі,*
*не разлічваю на тое,*
*што станеш падаваць руку*
*для тых*
*хто ніжэй цябе.*
*Я толькі хачу,*
*каб мы нават тады*
*маглі выпіць за*
*Годнасць і Сумленне.*

**М. Ваўранюк**

* ✲ *

размаўляюць ночы
ў глыбі раскудлачаных кропак
дарысоўвае месяц
ценем жыццё
ветрагонным ценем
уваходзіш ў сярэдзіну думак
ўсміхаюся
бышцам не верачы
што сон перасоўвае стрэлкі
гадзінніка
размаўляюць словы
ў легкадумных нетрах.

**М. Базылюк**

## ТАБЕ КВЕТКІ

Табе кветкі замала за ўчора,
А сёння — букет замалы.
Часта чую, як людзі гавораць,
Што мы шчасце з табою
знайшлі.

Запыняеш паглядам глыбокім,
Зрэнкі колюць, здаецца,
наскрозь.
Ападаюць міжвольна на шчокі
Залацістыя пасмы валос.

Заціскаеш на вуснах далоні,
Свой дзявочы хаваеш адчай,
Які сэрца жывое палоніць,
У маіх патанае вачах.

Слоў абрыўкі, закінуты
ветрам,
Чырванеюць на вуснах тваіх.
Ты чароўнай красуешся
кветкай,
Для якой нат букет замалы.

**Л. Танкевіч**

?

*Два сэрцы,*
*нібы аднолькавыя,*
*аднак розныя:*
*. . . . . . . .*
*адно, як агонь,*
*другое, як лёд.*
*. . . . . . . .*
*Два сэрцы —*
*дзве невядомыя.*

**Жэня Мартынюк**

* ✲ *

што сніў ты ў сінім святле
забітымі вачыма
што нёс у Невядомае
як уваскрасала Тваё сэрца
у гэтым белым-белым
доме
. . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . .
адказ у Тваёй крыві —
— ведаеш...

**Н. Артымовіч**

## КУДЫ, КУДЫ БЯГУЦЬ ГАДЫ

Куды, куды бягуць гады?
Чаму няма гадам звароту?
Хто зацірае іх сляды
У сцюжах, лужах і сумётах?

Хто беліць валасы, як лён?
Бараознамі нам твар калечыць?
Хто на адхоне нашых дзён
Знішчае зрок і горбіць плечы?

Хто забірае нам бацькоў?
Наша найбольшае багацце?
А потым па чарзе ізноў
І нас таксама губіць, траціць?

Гады, крадуць усё гады,
Без нашай згоды, запытання.
Бяруць з сабою ўсё туды,
Адкуль ужо няма вяртання.

**Віктар Швед**



Многія рэчы ўсё ж мяне здзіўляюць...

Учора на ганку бабуля парыла вялікі, жаўтаваты камень, якім здаўна прыдушвала агуркі. Паводле ейных словаў, калісьці ён упаў з неба. Бабка тады яшчэ як гэтак званы смаркач, сядзела адвячоркам ля хаты, цярэбячы цыбулю, калі ён мільгануў па небе і ламатнуў дзесьці за гумном. Яе надта карціла пабегчы за клуню,




прыгледзецца, што такое. Ды нельга было ёй пакідаць свае цярэбіны. Хутка й забыла б пра гэта, але наступнага дня зранку, ідучы цераз луг, прыкмеціла жаўтлявы камень, акаймаваны абгарэлаю травою. Спачатку падало ёй, што мо мае ён у сабе золата. Агледзелася: ці хто не бачыць? І, ахіліўшы яго радзюжкаю й паклаўшы ў кош, завалакла дадому з трывожным шчасцем у сэрцы. Камень падвёў — не залаты ён быў. І адпакутаваў за гэта, зімуючы на панадворку, забыты ўсімі, пакуль не звочыла яго ейная маці, несучы летам у хату кош першых агуркоў.

Сяджу іншы раз пад вішняю ў цяньку і думаю пра дзеда, што яе пасадзіў. Прабую ўявіць сабе, якім ён быў. Як добра ўспамінаць таго, каго амаль не ведаеш. Не дзеляць нас ніякія сваркі, а спалучае гэты добры вішнёвы цень.

Або настольнік бабулевай работы — такі ўтульны, цёплы. Здаецца, схаваўся б чалавек у ягоныя белыя ніткі, адпачыў бы. Глянеш — і ўжо лягчэй на душы.

Сяджу гэтак ля бабулі-настольніка, дзед-вішня частуе мяне, смакую касмічны смак агурка з-пад нябеснага каменя... Але хоць кампанія не абы-якая, аднак чагосьці не хапае і сум нейкі ахінае...

Ёсць шмат рэчаў, якія мяне здзіўляюць...

**Яраслаў Яновіч**

* ✲ *

*дай мне сонца*
*спелае*
*тваіх вачэй*
*пад сівым лёдам*
*холаду нямога*
*дзе словы-снягі*
*па вяршынях гор*
*па-веснавому таюць*

*ўвядзі у лес*
*дзе чым глыбей*
*тым дрэвы вышэй*
*неба падымаюць*

*дай слова мне*
*у жнівень сноў*
*дзе косы сонца*
*лета дажынаюць*

*і лета дыхае пажарам*

*і спапялею для цябе*
*датла*
*адною іскраю занята*

**Міра Лукша**

# Аб Аксені

Артыкул Баршчэўскага „Беларускі фальклор“ — „Ніва“ ад 21 красавіка № 16. Можна сказаць: добра не ведаеш — не пішы.

Баршчэўскі піша, што Аксеня, якая прымала дзяцей, людзям дапамагала, а сабе — не вельмі, бо сама мела двое дзяцей, ды і тыя былі ненармальныя. Хто ж хацеў бы мець ненармальных дзяцей?

Гэта было ў нашай вёсцы. Я крыху старэйшы за Баршчэўскага і я напішу, чаму яны былі такія.

Бацька гэтых дзяцей быў калісь прыгожым мужчынам. Але злавіў цяжкую венерычную хваробу. Гэтую хваробу ён залячыў. Ажаніўся з прыгожай дзяўчынай Аксеняй. Нарадзіўся ў іх хлопец. Кумы завезлі яго хрысціць. Не сказалі бацюшку, якім імем ахрысціць (мусіць, забылі), і бацюшка ахрысціў, як было на гэты дзень у календары. Бацькам імя вельмі не спадабалася, яны клялі бацюшку. З часам з імем пагадзіліся, але вылезла горшая справа: хлопец быў касавокі, скрыўлены і быў у яго неразвіты рост. Нарадзілася і дачка — была прыгожая, але на васемнаццатым годзе жыцця памерла.

Пасля вайны ў таго ненармальнага хлопца паабрывала пальцы. У яго бацькі ачнулася хвароба, і ён вельмі цяжка зноў захварэў. Ногі пасінелі і зрабіліся раны. З вялікага болю ў яго памяшаўся розум. Улазіў з нагамі на агонь, і наканец памёр. Аксеня засталася з калекам-сынам. Мусіла сама сабе даваць рады. Галоднай не была. Прымала дзяцей як акушэрка — на гэта была яна адважная. Другім бабкам гаварыла і раіла: калі народзіцца дзіця нежывое і калі яно белае — гэта ўжо ўсё. А калі народзіцца нежывое, але будзе сіняе — то трэба яму ўляпіць па сраць — і ажыве. Аксеню заўсёды ўсе клікалі на гасціны, таму што яна няшчасная, але і таму, што ведала многа беларускіх песень і хораша спявала. Любіла выпіць, можа каб развесяліць сваё гора, але хоць спявала — слёзы былі ў вачах. Была здаровая, поўнакроўная жанчына. Памерла на кровазліццё ў мозг. Сын яе ў Харошчы. Хатка ўжо пахілілася ў зямлю. Ніхто яе не чапае. Стаяць сцены і прыпамінаюць, як цяжка ў іх было людзям жыць.

Нам вельмі не хапае Аксені. Ніхто не можа яе замяніць. Рыбакі сталі як бы зачараваныя. На гасцінах ніхто так не заспявае, як Аксеня, і ніхто не ведае столькі песень нашых, і не пачуеш нідзе такога прыгожага моцнага голасу, які быў у Аксені.

Ад жыхароў вёскі запісаў усё гэта

**Ф. Хлябіч**





Беласток. Вуліца Кюры Складоўскай. Фота Я. Целушэцкага.

(Працяг са стар. 1)

# Сырадой

ратацыйкай катаўся, цяпер мая кабылка ледзь варочалку змагла выцягнуць. Такая наша сялянская доля! Я нават на абед дамоў не заязджаў, толькі на сенажаці сам крыху перакусіў і маёй кабылцы даў адпачыць.

Вяртаюся я дамоў, а тут у хаце — пуста. Палашкі няма, свінні квічаць аж хлеў развальваецца, мабыць, галодныя, каровы яшчэ на пашы непадоены, а пліта халодная, як душа багацея.

Выйшаў я на панадворак, зубы самі скрыгочуць, рукі трасуцца і сам не ведаю, ад чаго мне пачаць: ці вячэру сабе рыхтаваць, ці жывінай найперш заняцца? І толькі адна думка свідруе мне мазгі: „Дзе ж панясло гэтую старую?“

Ажно бачу: імчыцца подбегам мая Палашка і ўжо ад варот салодкім галаском мяне загаворвае:

— Ой, Максімка, родненькі мой, не гневайся на мяне ты, даражэнькі! Я ж не спадзявалася, што гэты сход так доўга зацягнецца. Я хуценька, зараз цябе парадачна накармлю — яешні з каўбасой ды на бакавінцы нарыхтую. І жывінай займуся, толькі ты не крычы на мяне, бо мы вельмі важныя справы разглядалі. Ну, хадзі ў хату!

І сама, быццам дзеўка васемнаццацігадовая, салодзенька ўсміхнулася ды хутчэй у хату ўскочыла. Я і сказаць нічога не паспеў. Толькі прыемны ўспамін усплыў у маёй памяці, калі мы з Палашкай перажывалі свае мядовыя гады. Тады яна гэтаксама мяне спакушала. Паплёўся я дахаты, але чуў, што злосць у мяне ўжо пераварылася і болей для віду, дзеля мужчынскага гонару, прабурчэў:

— Дзе ж ты бегала, дзе гультайнічала?

— На сходзе была я, на сходзе, — бразгаючы патэльняй, гаварыла Палашка. — Уяві сабе, што аж з ваяводскага праўлення гурткоў вясковых гаспадынь прыехала сёння да нас адна важная пані і не было як яе пазбыцца, бо гэта ў сувязі з выбарамі.

— Знайшлі час для сходаў! — адбуркнуў я, але ў гэты момант прыпомніў, што і ў мяне ляжыць запрашэнне, каб мне, як прадстаўніку салэцкай рады, у суботу на дзесяць гадзін раніцы з'явіцца ў гміну, дзе адбудзецца перадвыбарчая нарада, якую склікае Гмінны камітэт Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння.

— Максім, ты не чапляйся! — папікнула мяне жонка. — У іх свае планы і тэрміны, ды выбары не за гарамі, бо ўжо 13 кастрычніка ды яшчэ якія выбары!

Яна паставіла перада мною поўную талерку смакавітай яешні.

То ж колькі па розных установах і прадпрыемствах сядзіць сыноў і дочак беларусаў, здавалася б, сваіх людзей, а вазьмі ім прыгадай, што яны беларусы, дык папудзяць цябе, як сабаку паршывага, нават не апамятаешся, калі апынішся за дзвярыма іх шыкарных кабінетаў. Часта-густа гэтакі, з божай ласкі беларус, нават з уласнымі бацькамі пачынае ў роднай хаце балбатаць „па-панску“, каб, барані Бог, не зніжыцца да сваёй мужыцкай радаслоўнай. Ад такога сырадою нельга спадзявацца добрай смятанкі, бо ён ужо заквашаны чужымі мікробамі.

Задумаўся я, седзячы над апарожненай міскай. Не заўважыў нават, калі мая Палашка шмыгнула на панадворак, каб управіцца са сваімі гаспадарскімі абавязкамі. У хаце ўжо пацямнела. А можа я і задрамаў? Ад стала падняў мяне голас маёй жонкі:

— Максім, дапамажы конаўку з малаком апусціць у калодзеж, бо сама не здолею!

На панадворку пахла сырадоем.

**Максім Нурэцкі**

# Замалёўкі з жыцця

## ПАДАРОЖЖА, АБО ХТО ВІНАВАТЫ

Змучаны цяжкім днём, запоўненым уладжваннем розных спраў у Беластоку, уціснуўся я ў куток купэ ў вагоне і думаў аб чакаючых мяне трох гадзінах дарогі.

Ой, не люблю я гэтага „чыгуначнага бяздзейнічання“. Чалавек ні пачытае, ні адпачне. Цісканіна, бруд, смурод. Хочацца толькі як найхутчэй даехаць дадому, памыцца і легчы спаць. Нават часам забываеш павячэраць.

Змучаным зрокам правёў я па сваіх спадарожніках. Людзі на выгляд нецікавыя і таксама стомленыя. Мо нават не столькі справамі, але перш за ўсё гадамі. За выключэннем пары маладых: чарнявага, бадай нават прыстойнага, хлопца і дзяўчыны, не надта прыгожай, але і не брыдкай. Іх паводзіны на даўжэйшы час прыкавалі маю ўвагу. Ад першай хвіліны ў наступленні была дзяўчына. То абнімала хлопца, то цалавала, то далікатна песціла праз адзенне розныя месцы яго цела. Хлапец быццам бараніўся, але відаць было, што з увагі на людскія вочы. Дзве старэйшыя жанчыны, якія сядзелі на лаўцы побач са мной, выразна былі абураны паводзінамі дзяўчыны. Круціліся, мармыталі штосьці пад носам, але ўголас нічога не адважыліся сказаць. Затое далі ўжо волю языкам, калі маладая пара сышла ў Бельску Падляшскім.

— Божа, што цяпер за дзяўчыны! — загаласілі абедзве. — Зусім без сораму! Хто бачыў гэтак лезці на хлопца. Яшчэ трохі, і ўсадзіла б хіба яму руку ў распорку. Божа!, Божа!, што гэта за часы насталі.

Мужчына, які дагэтуль драмаў, і — здавалася — нічога, што дзеялася ў купэ, не бачыў, адпаліў, як кажуць, проста з мосту:

— Не прыкідвайцеся такімі святымі. А калісьці было інакш? Як якая наглядзела сабе хлопца, то датуль за ім хадзіла, пакуль не ўхадзіла. А вядома, як найхутчэй спакусіць маладога мужчыну. Ведаю штосьці на гэтую тэму! Праз яе праклятую задніцу цэлае жыццё мучуся. Падлезла пад мяне пару разоў, нагаварыла міленькіх слоў і капут мне! Малады я быў, надта малады, без вопыту. Ніякай дзяўчыны перад ёй не паспрабаваў. Здавалася мне тады, што шчасце да мяне ўсміхнулася. А цяпер гэтае „шчасце“ праклінаю. Ой, захутка праглынуў я кручок, захутка!

Жанчыны прабавалі апраўд-

# Спадчына

Два дні ў маі гэтага года з зацікаўленнем сачыў я за ходам міжнароднай сесіі, прысвечанай жыццю, творчым здзяйсненням і спадчыне двух вялікіх настаўнікаў усёй славянскай супольнасці, братоў Кірыла і Мяфодзія.

Сесію наладзіў у Беластоку Гурток тэолагаў праваслаўнай моладзі пры дзейсным удзеле Беластоцкага аддзялення Хрысціянскага грамадскага згуртавання. У Беласток прыехалі вучоныя і святары з Балгарыі, Савецкага Саюза, Чэхаславакіі і Фінляндыі.

У гэтым годзе прыпадае 1100-годдзе місійнай дзейнасці Кірыла і Мяфодзія сярод славян, а беларускі народ — неад'емная частка славянскай супольнасці.

Усходнія славяне (у тым ліку і продкі беларусаў) у IX стагоддзі і ў пачатку X стагоддзя стварылі сваю першую дзяржаву — Кіеўскую Русь, у якую ад паловы X стагоддзя пранікае ўжо хрысціянскае веравызнанне. Вядома, што хрысціянамі былі ўжо князь Ігар і княгіня Вольга. Масавае хрышчэнне кіяўлян было праведзена князем Уладзімірам Святаслававічам у 988 годзе і гэтая дата прымаецца як дата хрышчэння Русі.

Заходнія славянскія плямёны яшчэ раней аб'ядналіся ў дзяржаўную арганізацыю. Спярша, у VII стагоддзі, стварылі яны старажытную дзяржаву Сама, а потым паўстала Вялікамараўскае княства. Духоўная ўлада ў гэтай самастойнай славянскай дзяржаве належала нямецкаму архіепіскапу баварскаму, які меў сваю сядзібу ў Зальцбургу.

Нямецкія епіскапы насаджалі сваіх святароў і багасловаў, якія карысталіся або лацінскай або нямецкай мовамі і ў храмах народ іх не разумеў ды не вельмі ж прыхіляўся да новай веры, якая была для яго чужая і незразумелая. Духоўная нямецкая адміністрацыя ў сваю чаргу больш дбала пра свае выгоды, чымсьці аб справах славянскага люду, яго культуры і дзяржавы.

Каб хаця крыху пазбыцца гэтай надакучлівай залежнасці, вялікамараўскі князь Расціслаў звярнуўся да візантыйскага цара Міхаіла III і ўсходняга патрыярха Фоція, каб яны прыслалі ў Маравію здольных людзей, якія ведалі б і разумелі славянскую мову ды на гэтай мове пачалі навучаць народ законах хрысціянскай веры.

Выбар выпаў на братоў Канстанціна і Міхаіла, бо так у сапраўднасці называліся Кірыла і Мяфодзій. У 863 годзе, забраўшы з сабою свяшчэннае пісанне на славянскай мове, накіраваліся яны ў далёкую дарогу, каб у Вялікім княстве Мараўскім, у сталічным Вышаградзе пакласці асновы ўсходнеславянскай пісьменнасці і культуры.

Кім былі і адкуль выводзіліся гэтыя вялікія асветнікі славян?

Былі сынамі Марыі і Лявона, які займаў высокі чын у імперскай арміі Візантыйскага царства і жыў у паўночнай Грэцыі, у горадзе Салуні, які зараз называецца Салонікі.

Міхаіл, які пазней, калі пастрыгся ў манахі, атрымаў імя Мяфодзій, нарадзіўся... І тут няма згоды між даследчыкамі: падаюць даты ад 810 па 820 гады.

Канстанцін, (пазней у манашстве — Кірыла) нарадзіўся ў 826 або 827 годзе.

Ці былі яны грэкамі ці славянамі?

Мала хто ў беластоцкай сесіі выказваўся на тую тэму. Упэўненасці ў гэтым няма. Іх бацька быў высокім ваенным начальнікам, у шматнацыянальнай Візантыі перш за ўсё прадстаўляў імператарскую ўладу. Між іншым у гонар тадышняга візантыйскага імператара Міхаіла III ён назваў таксама Міхаілам свайго першароднага сына.

Затое ўсе згодна сцвярджалі, што абодва браты, Міхаіл і Канстанцін, ад маленства ўжо добра ведалі славянскую мову, бо сутыкаліся з ёю кожны дзень на вуліцы горада Салуні і ў яго наваколлі. Хіба ёсць у гэтым меркаванні шмат праўды, бо дарослага Міхаіла паставілі камандзірам ваеннай акругі, у саставе якой пераважалі славяне, а нават войска складалася там амаль выключна са славянскіх вояў.

У 841 годзе памёр іх бацька, які хацеў, каб яго сын Міхаіл працягваў кар'еру палкаводца. Гэтая роля яму, аднак, чамусьці не адпавядала і ён выбраў спакойнае, як яму здавалася, жыццё і пастрыгся ў манахі ў манастыры на святой гары Алімп, якая знаходзіцца ў цяперашняй Турцыі, але не мае яна нічога агульнага, апрача назвы, з вядомым Алімпам у Старажытнай Грэцыі. З часам Мяфодзій стаў ігуменам гэтага манастыра.

Яго брат, Канстанцін, ад роду шмат слабейшы здароўем, ужо ў юнацтве заняўся навукай і настолькі праславіўся як вучоны ў Візантыйскай імперыі, што імператар прысвоіў яму ганаровае і паважанае званне філосафа. Атрымаў ён адказную пасаду бібліятэкара ў славутым Сафійскім саборы ў Канстанцінопалі, які захаваўся да нашага часу.

Прабываючы яшчэ ў манастыры на Алімпе, Мяфодзій задумаў перакласці кнігі свяшчэннага пісання на славянскую мову, значыць на мову, якой карысталіся славяне ў яго родным краі. Давялося яму, аднак, перш за ўсё апрацаваць новы алфавіт, так званую глаголіцу, у якой адна літара адпавядала аднаму гуку (фанеме). Пазней, ужо пасля смерці абодвух братоў, іх вучні глаголіцу замянілі болей простай кірыліцай, якая ў сваю чаргу стала асновай для балгарскага, затым рускага алфавіта, а з яго пайшлі беларускі, украінскі і іншыя алфавіты.

У 863 годзе Кірыла і Мяфодзій з'явіліся ў Вышаградзе. Сваёй дзейнасцю тут, на перакор нямецкім епіскапам, дабіліся яны ад папы рымскага афіцыйнага прызнання славянскай мовы, як мовы раўнапраўнай мовам гебрайскай, лацінскай і грэчаскай у царкоўнай літургіі. Папа Адрыян II назначыў Мяфодзія архіепіскапам славянскім, духоўная ўлада якога прасціралася на Вялікамараўскую дзяржаву і княства Сырмійскае. Крыху раней, аднак, хваравіты Кірыла (Канстанцін) 14 лютага 896 года памёр, а неўзабаве (па загаду баварскага архіепіскапа) пасадзілі ў астрог і Мяфодзія, адкуль вызвалілі яго толькі на асабістае патрабаванне папы рымскага.

Вялікая праца Кірыла і Мяфодзія дапамагла славянам стварыць сваю ўласную навуку, літаратуру, культуру і царкоўную літургію на славянскай мове.

**Віктар Рудчык**

## Бібліяграфічны куточак

Stanisław Karnacewicz, Prawosławie w Polsce i na świecie. „Tygodnik Polski" (W-wa), R. 1984, Nr 50, s. 2.

(AJJ), Prawosławie Na Krecie. Jak wyżej..., s. 6—7.

Maria Doroszkiewicz, Wpływy wschodniosłowiańskie w gwarze miejskiej Supraśla. „Acta Universitatis Wratislaviensis" — „Slavica Wratislaviensia" (Wrocław), R. 1984, T. 29, s. 57—61.

Franciszek Sielicki, Z dziejów ziemi wilejskiej w pierwszej połowie XIX wieku. Jak wyżej..., s. 81—98.

Witold Karpyza, Materiały do dziejów szkolnictwa i oświaty w północno-wschodniej części byłego powiatu wołkowyskiego. Jak wyżej..., s. 99—109.

Tadeusz Wyszomirski, Prawosławie w świecie. „Studia i Dokumenty Ekumeniczne" (W-wa), R. 1983, Nr 4, s. 28—44.

Kazimierz Mnich, Znikają strzechy z budynków Białostocczyzny. „Wiadomości Ubezpieczeniowe" (W-wa), R. 1984, Nr 7, s. 8—10.

Danuta i Aleksander Wroniszewscy, Pod prądem. (Promieniowanie żył wodnych w Hajnówce). „Prawo i Życie" (W-wa), R. 1984, Nr 49, s. 1, 9.

Spotkanie na Ziemi Białostockiej (z okazji 40 rocznicy utworzenia 5 Dywizji Piechoty). „Biuletyn Informacyjny Zarządu Muzeów i Ochrony Zabytków" (W-wa), R. 1984, Nr 154, s. 96—97.

Krzysztof Wolfram, Krzysztof Wołk, O aktywną ochronę głuszca (w Puszczy Białowieskiej). „Las Polski" (W-wa), R. 1985, Nr 4, s. 11—12.

Zbiory zoologiczne w polskich instytucjach państwowych, „Przegląd Zoologiczny", R. 1984, Z. 3, na str. 295—297 Czesław Okołów, Muzeum Przyrodnicze Białowieskiego Parku Narodowego; na str. 297—307: Andrzej L. Ruprecht, Zakład Badania Ssaków PAN w Białowieży.

**П. Байко**

---

вацца, але ніякіх пераконваючых контраргументаў не маглі знайсці.

У той час у купэ ўвайшоў малады мужчына, сеў на свабодным месцы і нейкі час прыслухоўваўся ўзаемным абвінавачванням, а калі ўжо па абодвух баках ручай слоў выразна абмялеў, сам уключыўся ў размову:

— У нас у сяле, — пачаў ён, — жыве адна ўжо старая жанчына. Яна вельмі хутка аўдавела. Было ў яе двое дзяцей. Гавораць, што не было ніводнага дарослага мужчыны ў нашым сяле, а мо і ў суседніх сёлах, які б не пагуляў з ёю. Значыць, і калісьці не было гэтак бязвінна ў інтымных справах.

— А не было, не было, — прытакнуў апускаючыся ізноў у дрымоту мужчына. Няхай здарыцца якоесьці ў сяле вяселле ці большы святок, а ў клунях проста не было месца ад „параў".

Адна жанчына моцна ўзлавалася і накінулася крыкам на абодвух мужчын:

— Не веру, каб у вёсцы ўтрымалася такая курва! Бабы яе прагналі б на край свету. А што тычыцца клуняў, то хто ў іх цягнуў бабаў? Самі мо лезлі і бабілі мужчын, га? Колькі праз вас слёз бабы праліваюць.

Старэйшы мужчына ўстаў і махнуў рукой над галавой жанчыны. Я перапалохаўся, што будзе яе біць, але той толькі заявіў:

— Калі сука не дасць, то сабака не возьме.

Затым узяў свае пакункі і выйшаў на калідор.

Неўзабаве цягнік даехаў у Гайнаўку. Маё купэ апусцела. Але я яшчэ даўжэйшы час думаў аб спрэчках.

Прыпомніў таксама расказ майго знаёмага пра яго сябра. Хлопец нянадта прыгожы, але затое вельмі багаты (а дакладней — у яго былі багатыя бацькі) і што дзіўнае — вельмі добры. Закахаўся ён у мясцовую прыгажуню, на жаль, таксама багатую. Хадзіў за ёй, як цень, маліў яе аб спатканні, купляў дарагія падарункі. Але яна адганяла яго, як толькі змагла. Хлапец проста губляў розум. Урэшце дзяўчына пачала быццам крыху больш прыхільна глядзець на заляцанні, а нават згадзілася на спатканне сам насам, якое адбылося ў хаце яе бацькоў, у час іх адсутнасці. Гэтак выйшла, што спатканне мела фінал у ложку. Праўда, хлопец быў моцна выпіўшы і нічога не атрымалася. Пасля гэтага дзяўчына зноў стала не прыкмячаць хлопца. А яшчэ горш, пачала насміхацца з яго перад сяброўкамі, гаворачы, што ён, як мужчына, — поўны нуль.

Хлапец моцна ўсё пераЖыў. Пачаў піць, хуліганіць. У кароткі час здабыў апінію найбольшай дрэні ў сваёй мясцовасці. Аднойчы сустрэў былую „даму свайго сэрца" ў адлюдным месцы. Прабаваў яе згвалціць. Але зноў нічога яму не выйшла, хаця палавыя зносіны з іншымі дзяўчынамі, якія былі ў яго праз гэты час, кожны раз канчаліся ўдачна. „Дама сэрца" аб напасці паведаміла ў міліцыю. Калі міліцыя прыехала за гвалтаўніком, убачыла яго павешанага ў садзіку перад хатай.

Думкі мае перапыніла ўвайшоўшая ў купэ маладая пара. І ён, і яна былі зусім п'яныя. Не зважаючы на мяне, пачалі „дабірацца" да сябе. Я не меў ніякага выхаду, толькі пакінуць купэ. Апошнія паўгадзіны падарожжа правёў у калідоры вагона.

**Пётр Байко**



Жамчужына старажытнага дойлідства на Нёмане — Барысаглебская (Каложская) царква ў Гродне. XII стагоддзе.

шаюцца экспазіцыямі, прысвечанымі выдатнаму рэвалюцыйнаму і дзяржаўнаму дзеячу С. В. Прытыцкаму (родам з Гаркавічаў, што каля Крынкаў), Герою Савецкага Саюза, маршалу В. Д. Сакалоўскаму (паходзіў з Козлікаў, што каля Заблудава) і Таварыству беларускай школы, дзе на цэнтральным месцы відаць фатаграфія нядаўна памёршага Піліпа Кізевіча — старшыні Першага ўстаноўчага з'езда БГКТ і шматгадовага ахвярнага дзеяча нашага Таварыства. Выходжу з музея з надзеяй, што мне яшчэ пашчасціць пабываць у ім і дакладна пазнаёміцца з яго зборамі па гісторыі беларуска-польскіх узаемасувязей і ўзаемаўздзеянняў на працягу мінулага тысячагоддзя.

Працяг нашага падарожжа ў мінулае і сучаснасць Гродна — гэта наведанне Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, якое памяшчаецца ў... доміку Элізы Ажэшка. Прымае нас у колішняй гасціннай пані Элізы сам старшыня аддзела, вядомы беларускі празаік і... ураджэнец Страшава, што каля Гарадка — Аляксей Карпюк. Пры алябастравым каміне, які добра памятае аўтара „Над Нёманам", „Дзюрдзяў" і „Хама", у моднай кафеварцы рыхтуе ён нам духмяную каву. Расказвае пра гродзенскую пісьменніцкую арганізацыю, яе будні і святы. Згадвае сваю колішнюю партызанскую адысею ў лясах Беласточчыны. Знаёміць з цікавай экспазіцыяй малюнкаў і графікаў, якія здобяць сцены публічнай бібліятэкі, што займае асноўную частку доміка Э. Ажэшка. І вядзе на Гродзенскія могілкі. На каталіцкіх наведваем магілу Э. Ажэшка пад траўрным, з чорнага мармуру, надгроб'ем, а на праваслаўных, пад светлай стэлай, знаходзім месца вечнага спачынку выдатнага гродзенскага рэвалюцыянера і паэта Міхася Васілька. Згадваем самыя яскравыя, самыя чалавечалюбныя старонкі з іх дзейнасці і творчасці. А на развітанне Аляксей Нічыпаравіч Карпюк падпісвае і ўручае кожнаму з нас сваю толькі што выйшаўшую з друку кнігу „Сучасны канфлікт", у элегантнай вокладцы колеру... чорнага. Але наша развітанне не змрочнае.

**М. Гайдук**
Фота аўтара.



Відаць Нёман з дзядзінца Старога замка ў Гродне.

(Працяг са стар. 6)




рэцкі назваў „змучанасць ідэйнасцяй". Кпіць сабе з нацыянальнага пачуцця людзей, якія не перасталі надалей быць беларускімі патрыётамі, а называючы іх „плоймай усялякіх беларускіх патрыётаў", разлічвае на безадказнасць. Словам, не згадвае пра сапраўдныя матывы адыходу людзей, якія шмат энергіі і здароўя аддалі беларускай справе, упіхваючы ўсіх у адзін мяшок: „змучаных ідэйнасцю". Прытым спасылаецца на выдатных дзеячоў беларускай культуры і свае закіды хітра падмацоўвае думкамі людзей, якія для „адышоўшых" могуць з'яўляцца нацыянальнай святасцю. Спрытна! Нічога не скажаш.

Парадокс, аднак, у тым, што ў канцы свайго выказвання Анташэвіч называе адну характэрнасць „змучаных ідэйнасцю" — магічнасць складу іх думкі, гэта значыць успрыйманне пажаданага за сапраўднае. І, міжвольна, насуперак сабе — цудоўны прыклад на сваю „змучанасць ідэйнасцю" (глядзі: „Узыходжу я на трыбуну..."). Дык хто тут змучаны ідэйнасцю?! І ці часам не сам Анташэвіч?!. Бо ж толькі ён верыць у „цудадзейнасць слова", інакш кажучы — „моц языка"! Дык прычым тут іншыя? І ці не лепш было б разважанням падаць самакрытычны загаловак „Моцны я ў языку", прадумаўшы яшчэ раз іх змест?! Бо ж заканчэнне да гэтага зводзіцца!

Магчыма, што не час яшчэ гаварыць пра набалелыя справы, якія былі прычынай адыходу з актыўнага беларускага жыцця шматлікіх свядомых беларусаў. Ужо сам факт іх адыходу быў своеасаблівай формай іх паражэння (і не пры чым тут змучанасць ідэйнасцю!) і ў самім зародку — заклеймаваны асабістым трагізмам. (Ува многім нагадвае ён мне апошнюю дасканалую п'есу Стэфана Жэромскага „Уцякла ад мяне перапёлачка" і „Незайздросны лёс", які вы-

(Працяг на стар. 11)

сваёй сям'і.

І пайшла цётка Настуся ў лес. Для адводу вачэй узяла дзве свае кароўкі, далучыла да іх двухмесячнае цялятка, ды накіравалася ляснымі сцяжынкамі ў бок Юзафова.

— Но, пярэстая! Куды ты лезеш, чорная халера! Ай, цялятка нядобрае, трымайся сваёй мамы! — спецыяльна голасна крычала яна, звяртаючыся да сваіх красуль, каб загадзя яе пачулі і тыя, якіх яна намагалася папярэдзіць аб небяспецы, як і гэтыя, што ішлі баявым ланцугом, а гарклявыя іх галасы таксама зрэдку даляталі да яе вушэй, проста падганялі яе недзе ззаду.

— Ну, хутчэй, хутчэй, красулі вы мае добранькія! Яшчэ паспееце за дзень божы травіцы наскубацца! — цішэй і болей ласкава прыгаварвала яна сваім кароўкам.

Перапыніў яе вартавы. Высокі, барадаты, у паўкажушку, з вінтоўкай. Выскачыў з-за куста так нечакана, што цётка Настуся ў першую хвіліну не паверыла ў яго чалавечасць.

— Прападзі ты пропадам, сіла нячыстая! — перахрысцілася яна, сплюнуўшы тройчы за сябе.

У адказ пачула бестурботны рогат. Гэтаму барадатаму і ўзброенаму чалавеку выразна спадабалася тое, што нейкая баба ўзяла яго за чорта.

— Зараз табе адхочацца дурнога смеху! — закрычала бабулька на сваёй звонкай беларускай гаворцы.

— Чего тебе надо? — строга запытаў вартавы, хаця міла яму было пачуць родную гаворку.

— Мне дык нічога не трэба! — зусім незбянтэжана адказала цётка Настуся. — А вось немцам, якія зараз тут будуць, дык напэўна спатрэбіцца твая кудлатая галава!

— Што ты пляцеш? — вартавы перайшоў на сваю гаворку. — Якім немцам? Дзе яны? Колькі іх?!

— Што мне з табою гутарыць! — адрэзала яму жанчына. — Выклікай хутчэй свайго камандзіра, або сам вядзі мяне да яго!

У гэты час камандзірам быў у іх ужо Хведар Парфенюк, селянін з вёскі Залукі, вядомы ў атрадзе пад партызанскай мянушкай „Грышка". Атрад шмат павялічыўся і патрабаваў ужо аператыўнага кіраўніцтва. Складаўся ён у асноўным з такіх жа самых звычайных сялян, як і Хведар Парфенюк, якія ўцяклі ў лес, каб ратаваць сваё жыццё ад пакутніцкай смерці ў засценках жандармерыі і гестапа.

Сярод іх знаходзіліся таксама і былыя салдаты ды камандзіры Чырвонай Арміі, якім удалося вырвацца з палону, або звычайна заблукаліся яны ў тыле ворага ў час яго наступлення на ўсход.

Мясцовае насельніцтва, насуперакор суровым загадам і забаронам акупацыйных улад, найчасцей прыхільна, з вялікай спагадай адносілася да гэтых „васточнікаў", як іх тут называлі. Не было вёскі, у якой у гаспадароў не знаходзілі яны прытулку, стравы і адзежы. Калі ўцёкі ваеннапалонных сталіся ўжо масавымі, а гэта было пад восень 1941 і ў пачатку 1942 гадоў, тады гітлераўцы нават напалавіну афіцыйна дазволілі тутэйшым сялянам трымаць у сябе „васточнікаў" пад відам парабкаў.

Здарыліся, аднак, і няшчасці. Расказвалі мне людзі, што ў наваколлі Валіл, Грыбаўцаў, Бандароў і Гарадка адзін з гэтых „васточнікаў" неяк трапіў у рукі жандармерыі. Там яго найперш страшэнна мучылі і здзекаваліся над ім, а затым паабяцалі дараваць яму жыццё, калі ён выявіць тых сялян, якія спрыялі і дапамагалі савецкім людзям. Ён згадзіўся. Ледзь прытомнага паклалі яго ў падводу і пачалі ездзіць з ім па вёсках, а гэты чалавек паказваў хаты, дзе яго гасцінна прымалі. Гітлераўцы адразу выконвалі свой смяротны прысуд на тых жа сялянах. Урэшце прыкончылі і самога „васточніка"-здрадніка, а хутчэй за ўсё — няшчаснага чалавека, які не вытрымаў жудасных здзекаў.

(Працяг на стар. 8)




## БОРШЧ НАШ НАДЗЁННЫ

Часам я задумваюся, што ад чаго займела назву: страва ад расліны ці расліна ад стравы. Абедзве сабе роднасныя: боршч і баршчэўнік. Негустая страва, якую ў нас завуць боршчам, людзям была вядомая ўжо ў сярэднявеччы. Толькі з XVI стагоддзя пачалі вырошчваць буракі і таксама з іх гатаваць боршч. Аднак ці расліна, з якой калісьці нарыхтоўвалі страву, ужо ў старажытнасці звалася баршчэўнікам — тое невядома. Назва расліны амаль аднолькавая ва ўсіх славянскіх мовах. У раскрыцці гэтай загадкі таксама не дапамагае яе лацінская назва. Баршчэўнік (лацінская назва — Heracleum sphondylium, польская — barszcz zwyczajny, руская — барщевик рассеченый). Лацінская назва паказвае, што гэта зелле Гераклія: вялікае, моцнае. Сапраўды, гэта аграмадная расліна: да 150 см высокая, а сцябло пустацелае, 2-3 см таўшчыні. Дзякуючы велічыні расліны, яе няцяжка знайсці: даволі заглянуць у зараснікі (найлепш асінавыя), пайсці на незагаспадараныя лугі ці пакінутую сядзібу.

Гэтую расліну я добра памятаю з майго дзяцінства, ды па дзвюх прычынах. Калі мне было 5-6 год, падчас сенакосу мне даручылі баявое заданне: выбіраць гэтыя вялікія расліны з валкоў згрэбленага сена. Спачатку гэта здалося мне нават даволі цікавай гульнёй, але калі я выцягнуў 5-10 штук, а канца работы яшчэ не было відаць, тады гульня пераўтварылася ў страшэннае мучэнне. Я хацеў даведацца, чаму мушу выцягваць такую прыгожую траву.

— Бач, сцяблы вільготныя і сена сапсуецца, — пачуў я ад бацькі з выразным дакорам у яго голасе.

Цяпер людзі навучыліся захоўваць сена не толькі сушанае, і аказалася, што баршчэўнік — гэта вельмі карысная расліна ў сіласаванні. Праведзеныя даследаванні паказалі, што па кармавой вартасці баршчэўнік аказаўся нават лепшы ад кукурузы і пры вырошчванні дае два плёны па 50 тон з гектара кожны.

Другі раз сутыкнуўся я з баршчэўнікам, калі з бабуляй мы пайшлі пешшу ў яе родную вёску, да якой было 6 кіламетраў. Ужо ў палове дарогі я прыстаў, і мне захацелася есці. Бабулька адламала маладую галінку баршчэўніку, здзёрла з яе скурачку і дала мне. Галінка мне надта смакавала. Потым вясною, калі я вяртаўся са школы, заўсёды сілкаваўся якраз баршчэўнікам, ён быў лепшы ад шчаўя.

Па сённяшні дзень баршчэўнік — расліна ядомая. Як паказвае назва, — яна — асноўная сыравіна на боршч. Страву нарыхтоўваем гэтак: спачатку трэба наскрэбсці 200 грам бульбы і налупіць 80 грам цыбулі, пакрышыць і паставіць варыць, у міжчасе памыць 200 грам маладога лісця баршчэўніку і 60 грам пятрушкі прапусціць праз мясарубку (машынку да малацця мяса) і ўкінуць да бульбы, якая варыцца, дадаць перац, соль, маргарын (40 грам), лаўровы ліст і яшчэ варыць на працягу 10 мінут. Падаваць з яйкам і смятанай.

Яшчэ часцей з маладых парасткаў баршчэўніку нарыхтоўваюць салаты, як са шпінату. Трэба ўзяць — чытаем у кулінарнай кнізе — 100 грам лісця баршчэўніку, адварыць яго праз 3-5 мінут, пакрышыць, змяшаць з пакрышанай цыбуляй (50 грам), прыправіць алеем і прыправамі, вымешаць і класці па лыжачцы на кружочкі нарэзанай варанай бульбы. Верце: смачнае, аж слінкі цякуць

Баршчэўнік таксама мае лячэбныя ўласцівасці. Ужываюць яго пры дрэнным страваванні і эпілепсіі. У лячэнні гэтых хвароб карыстаюцца выварам з карэнняў (яны таксама ядомыя, а дзякуючы цукару ў іх — нават саладкаватыя). Ад кашлю і пры язвавай хваробе ўжываюць вадкага экстракту з зелля баршчэўніку: 30 грам сухога лісця заліць 400 грамамі халоднай пераваранай вады і пасля 8 гадзін настойвання піць праз гадзіну па некалькі глыткоў.

Напаранне з зелля і пладоў баршчэўніку прымяняюць супраць глістаў, яно паўстрымоўвае таксама развіццё бактэрый, а часам яго ўжываюць таксама як ветрагонны сродак.

**д-р Б. Паскробка**

*ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!*

*Пачынаем друкаваць цыкл замалёвак „Гома сапіенс“ вядомага беларускага пісьменніка Аляксея Карпюка. А. Карпюк нарадзіўся і выхаваўся ў вёсцы Страшава, што каля Гарадка на Беласточчыне. Шмат з таго, аб чым гаворыцца ў яго творах, пачэрпнута з жыцця яго родных мясцін.*

*„Гома сапіенс“ змешчана ў новай кнізе прозы А. Карпюка „Сучасны канфлікт“, якая выйшла з друку ў бягучым годзе.*

*Прыемнага чытання!*

**Рэдакцыя**

## „ГОМА САПІЕНС“

I

Не памятаю, каб дзядзька Юравец хоць адзін раз павітаўся з кім-небудзь. Маўклівы і панылы споўдаўся цэлы дзень на панадворку і ў полі, бы сонная муха, а вечарам завальваўся спаць. На сходкі ці гутаркі з суседзямі не выходзіў. Без жончынага панукванння не раскалоў, мабыць, для хаты і палена дроў, не нарэзаў карове сечкі. А перлі паны на шарварак ці паліцыянты загадвалі везці іх у гміну, дзядзька з той жа панылай абыякавасцю запрагаў каня ды адпраўляўся на паншчыну.

Дзяцей Юравец меў таму шмат, бо — я абсалютна ўпэўнены — не разумеў сувязі палавога жыцця з дзетанараджэннем; не навучыўся такой прамудрасці там, адкуль чэрпалі звесткі ўсе аднавяскоўцы. Юраўцава сям'я жыла ў брудзе і голадзе. Дзеці былі рахітамі, з сінявата-шэрымі тварыкамі, з галовамі, поўнымі лішаёў ды струпаў. Каб не перамены, прынесеныя нашай вёсцы ўз'яднаннем, большасць малых не дажыла б і да школьнага ўзросту.

Дзесяць гадоў пасля вайны жонка Юраўца працавала ўжо на саўгаснай ферме даяркай, а муж яе — паляводам. Вось тады пляменнік — наваспечаны дацэнт — і прыслаў са сталіцы ім паліто. Пакуль малады вучоны яго сабе шыў, паліто выйшла з моды. Пляменнік падумаў, што падарунак з дарагога сукна, ні разу не апрануты, сваяку — знаходка.

Атрымаўшы пасылку, бацькі, сыны-кавалеры і дарослыя дочкі доўга дзівіліся, гладзілі ды нюхалі шаўкавісты ворс карычневага драпу, заклапочана думалі і бедавалі — на гаспадара паліто аказалася завялікае. Старэйшы сын нясмела параіў перашыць.

І тут Юравец, які з-за ленасці не абмінуў ніводнай лужыны, а, пагаліўшыся ў нядзелю, па той прычыне не змываў з твару мыла, на сына вызверыўся:

— Здурэў хіба?! Псаваць так дарагую рэч?

Жонка падтрымала:

„Дальбо, грэх такое рэзаць! Давайце мне яго ў куфар!

Юраўцава сям'я яшчэ нейкі час цярпела нястачу: зімой сыны дзяліліся адным паўпальткам, дзяўчаты — мацерынай, з „мікалаеўскіх“ часоў, бікешай, але памалу станавіліся на ногі. Дочкі пазнаходзілі мужоў, пажаніліся і хлопцы. Маладыя пакінулі вёску ды пераехалі ў горад. Да самай смерці стары прanasіў зашмальцаваную шынельку, а перасыпаны нафталінам і багульнікам пляменнікаў падарунак так і збуцвеў у куфры.

Эх, каб толькі такія людзі былі бяскрыўднымі і непрактычнымі дзівакамі!

Перад нямецка-польскай вайной у нашых Ліпніках баставалі лесарубы. Паліцыя загадала Юраўцу ехаць у лес ды вазіць на станцыю сосны. У той час, калі ні адзін яго сусед нават і не думаў аб прадажніцтве, пакорны дзядзька ўлады паслухаўся.

Яшчэ ў той самы вечар лесарубы спалілі штрэйкбрэхеру гумно з намалочаным збожжам (за гэта мамінага брата, Валодзьку і яго сябра, Юлька Парэмскага, паліцыя скатавала на пастарунку ды адправіла ў гродзенскую турму).

Пасля ўз'яднання Юраўца за тое прадажніцтва выклікалі на допыт, і толькі глабальныя падзеі не далі справе належны ход.

**Аляксей Карпюк**

(Працяг са стар. 7)

## ПАСТУШКА НАСТУСЯ

Вестка аб гэтым хутка і шырока разнеслася па наваколлі. Сяляне сталі болей асцерагацца.

Памятаю, што ў маёй роднай хаце маці заўсёды пакідала крыху супу ці іншай стравы ў гаршках для „нечаканага“ госця, а на стале пад белым ільняным ручніком заўжды ляжаў распачаты бохан хлеба. Калі, аднак, гэты „нечаканы“ госць прыходзіў у хату і прасіў штосьці паесці, дык заўсёды чуў адказ, што ў нас нічога няма, што мы самі галадаем, а калі не верыце, дык, маўляў, паглядзіце. І маці ці бацька паказвалі на кухонную пліту або на стол.

Узаемная салідарнасць людзей хадзіла тады вельмі ж пакручастымі сцежкамі. Але яна была. Без яе партызанская група Хведара Парфенюка, якую некаторыя называюць атрадам „Бацькі“, не праіснавала б нават і месяца часу. Было іх каля сарака чалавек. Найчасцей сядзелі ў Скрабляцкім лесе. Прысутнасці такой колькасці людзей немагчыма скрыць ад сялянскіх дапытлівых вачэй. Хопіць пабыць на адным месцы хаця б адну ноч, а ўжо незацертыя сляды чалавечай прысутнасці ад такой партызанскай грамады, безумоўна, застануцца. Сяляне бачылі і маўчалі. Нават ляснік Налівайка, які любіў падхаліміць немцам, стараўся не заўважаць лясных „бандытаў“ на сваім участку.

Праўда, група „Бацькі“ вялікай баявой актыўнасці не праяўляла. У асноўным трацілі яны сваю энергію на тое, каб неяк забяспечыць свае штодзённыя патрэбы, каб засцерагчыся ад нечспадзяванага наскоку карнікаў. Мелі радыё і пішучую машынку. Слухалі паведамленняў Савецкага інфармацыйнага бюро і болей аптымістычныя весткі з усіх франтоў перапісвалі на машынцы і цераз сувязных рассылалі па наваколлі. Гэтай справай у першую чаргу займаліся даўнейшыя афіцэры — людзі адукаваныя, якія добра ведалі рускую мову, бо на гэтай мове партызаны вялі сваю антыгітлераўскую прапаганду.

Мяне цікавіла, якім шляхам партызанскія лістоўкі траплялі ў рукі сялян. Аказалася, што ў партызан была свая „пошта“. Адзін з гэтых пастаянных „паштовых“ пунктаў быў за вёскай Скрблякі, там, дзе калісьці, яшчэ да студзеньскага паўстання з 1863 года, знаходзіўся панскі маёнтак, ад якога астаўся толькі адзін разваленьі склеп. Ля гэтага склепа ляжаў вялікі камень, а пад каменем была абсталявана „паштовая“ скрынка. Каб без патрэбы не пакідаць слядоў ля самага каменя і склепа, партызаны ставілі над склепам свой указальны знак: галінку ракіты. Калі ракіты не было, сувязны ведаў здалёк, што няма яму чаго шукаць пад каменем. Такім жа спосабам свае паведамленні ў атрад перадавалі таксама сувязныя.

Пачуўшы, з чым да яго цётка Настуся, Хведар Парфенюк адразу ўзняў свой атрад па баявой трывозе і цераз некалькі хвілін не было іх ужо на тым месцы. Не прабавалі нават заціраць слядоў сваёй прысутнасці.

Цётка Настуся накіравала свае кароўкі назад у напрамку Грыбаўскіх хутароў. На гэты раз не падганяла іх, не спяшалася, ішла попасам. У сэрцы адчувала яна нарастаючую трывогу, баялася таго, што можа яе сустрэць на гэтай лясной дарозе. Гарклявыя галасы гітлераўскіх ваякаў з кожным крокам яна чула ўсё бліжэй.

**Віктар Рудчык**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*На ўроку беларускай мовы ў трэцім класе ў Махнатым. На пярэдняй парце Ярэк Мароз і Лешак Міранюк.*

*Фота Я. Чэрнякевіч*

**Пятро Васючэнка**

Буйнагаловыя макі перад хатай дзядулі Сямёна з шэрых ператварыліся ў яркачырвоныя, наліліся агнём. Сонца ўзыходзіла над вёскай, разганяла ранішні змрок, усё фарбавала ў светлыя колеры. Сонечныя промні прайшліся па ўзорыстых аканіцах, рассыпаліся аб шкло сотнямі дробных зайчыкаў, і адразу павесялелі, ажывіліся блакітныя пеўнікі на фіранках.

Больш смялейшыя промні адважыліся зазірнуць у хату, пачалі казытаць коціка Фільку, паднялі з мяккай ляжанкі.

Чхнуў коцік незадаволена і скаціўся з печы на падлогу. Ачмурэла заматаў галавой і запытальна паглядзеў на гаспадара. „Мо годзе спаць, ранак ужо заняўся". Толькі не азваўся, моцна спаў стары.

Так бы ён і спачываў спакойна, ды раптам у двары ўсчаўся жудасны канцэрт. Распачаў яго Байкал. Каму ж яшчэ? Байкал малады, мала што разумее, хоць і вялізны вымахаў. Надоечы ён таксама гвалту нарабіў, а прычынай быў маленькі вожык, які лазіў у капусніку. Натрапіў на яго Байкал, хацеў расправіцца, ды не ўдалося, толькі пысу пакалоў да крыві.

Сабачы брэх з ахвотай падтрымалі парсюкі. І ў куратніку певень-гаспадар недарэчна зацягнуў сваё залівістае „ку-карэ-ку", пасля чаго сонна залапаталі куры.

Дзядуля Сямён усхапіўся з ложка і падышоў да акна паглядзець, што там здарылася.

На дарозе сядзеў худы, выліняы сабака і цярпліва чакаў. Адчуўшы на сабе чалавечы позірк, стрымана замахаў хвастом.

— Вярнуўся, значыцца. Так, так... — прамовіў дзядуля.

Верна служыў гаспадару Жук, быў у яго ў вялікай пашане, пакуль не састарэў. Поўсць пачала лезці, вочы — слепнуць, вушы — глухнуць, і нюх ужо стаў не той.

Знаёмыя параілі дзядулю набыць новага сабаку, аўчарку. А Жука куды падзець? Доўга думаў дзядуля Сямён, чухаў патыліцу, ды ўрэшце ўзяў і адвёз Жука да сваякоў, у вёску кіламетраў за дванаццаць. Збыў з рук і хутчэй скіраваўся дахаты...

Ва ўтульнай, абжытай будачцы Жука пасяліўся пародзісты сабака з гучнай клічкай Байкал.




Што ж, Жук вярнуўся, трэба яго сустракаць.

Байкал на хвіліну перастаў брахаць. Кінуўся, ледзь не збіўшы з ног дзядулю. Так ён прывітаўся радасна і бурна. Потым у злосці залемантаваў на Жука. Але Жук і вухам не павёў, далікатна падаў дзядулю Сямёну лапу, сумна, з дакорам паглядзеў у вочы, праскуголіў нешта жаласнае. Нялёгка даліся Жуку тыя дванаццаць кіламетраў: лапы мокрыя, між кіпцюроў застылі бурыя камякі гліны. На поўсці засохла кропля крыві.

Бег, бег лесам, балотам напрасткі, прадзіраўся праз лапухі, прынёс на хвасце россып калючак, на шыі — звенні абарванага ланцуга.

— Вярнуўся, значыцца, — усё паўтараў дзядуля Сямён. — А прытуліцца няма дзе: хата твая ўжо занятая.

Байкал сярдзіта бразгаў ланцугом, гырчаў на прыхадня, быццам падбухторваў: падыходзь сюды, туляга, будзем змагацца! Жук вяла ўспрымаў гэтыя прапановы. Маўляў, малады ты яшчэ, розуму не маеш. Сядзіш у сваёй будцы, дык сядзі, а брахаць я не горш за цябе ўмею. Ты пародзісты, я — шарачок, ну дык што з таго? Затое я ўсё жыццё быў гаспадару падмогай і на паляванні, і на рыбалцы, а і ад ліхога выпадку бараніць яго даводзілася.

Прыйшоў дзядуля, накарміў абодвух, пабедаваў, павохкаў ды зноў узяўся за свае справы.

Раптам Байкал ірвануўся, напяў ланцуг, захлынуўся ў зацятым хрыпе. Гэта ён убачыў, як з хаты выкаціўся рыжы коцік Філька. Жук насмешліва сузіраў Байкалаў гнеў: знайшоў на каго кідацца, — на малое кацяня.

А Філька з пагардаю фыркнуў, амаль пад носам у заклятага ворага прашпацыраваў па двары ўзад і ўперад. Потым зноў шуснуў у хату.

Сонца падымалася ўсё вышэй. Жук прыгрэўся ў зацішку, прыплюшчыў вочы. Ды раптам загаўкаў Байкал: па дарозе вялікай чарадой ішлі каровы. Жук неахвотна збочыў з дарогі. Каровы прайшлі, а за імі доўга курыўся пыл...

З-за лесу выплыла хмарка. Здалёк яна здавалася невялічкай, а неўзабаве распаўзлася на паўнеба. Усё навокал спахмурнела. Пайшла гуляць над вёскай навальніца, з перунамі ды бліскавіцамі. Байкал спалохаўся,

(Працяг на стар. 10)

# ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

### МАСЛЯКІ

Прайдзіся летнім ранкам
Ля сасонак.
Там маслякі так і паўзуць
З пялёнак.
І разбягаюцца па сасняку.
Яшчэ слабенькія зусім
Іх ножкі.
Ім не забрацца нізавошта
Ў кошык.
Таму падай ім
Хуценька руку!

**Вольга Іпатава**




Старэйшы брат Паўліка служыць у пагранічных войсках. Гэтай вясною ён прыязджаў дадому на пабыўку і прывёз бінокль.

Колькі ў Паўліка тады было радасці!

Даваў Паўлік паглядзець у бінокль і сваім сябрам. А потым беражліва клаў яго ў скураны футляр і за раменьчык вешаў на сцяну.

Усё было б добра, каб не тое, што з таго дня, калі з'явіўся бінокль у Паўліка, да яго інакш пачала адносіцца бабуля. Раней яна многага не заўважала, а цяпер і тое не так, і гэтае не так.

— Навошта ж ты на рэчку ходзіш? Тата і мама казалі ж, каб ты не хадзіў! І ўтапіцца самому можна...

— Я не быў на рэчцы, — прабаваў тлумачыцца Паўлік.

— Быў. І што гэта за гульні такія: з берага спіхаць адзін другога ў ваду!

Паўлік замоўк. Што рабіць? Мабыць, бачыла... І сапраўды ж гэтае было.

І двух дзён не мінула, як бабуля зноў да яго:

— Не, я мушу паскардзіцца на цябе маме і тату. Чаго лазіць па грачыныя гнёзды? Там жа цяпер птушаняты, а вы іх палохаеце?

Паўлік аж крыкнуў ад роспачы:

— Бабуля, хто ж гэта табе аб гэтым сказаў? Ты ж нікуды не ходзіш, а ўсё ведаеш!

— А ў мяне такі вартаўнік ёсць. Што не так, ён зараз прыходзіць да мяне і ўсё расказвае, які ты непаслушнік.

Паўлік задумаўся: што ж гэта за такі вартаўнік у бабулі? І вырашыў ён даведацца. Пайшоў ён нібы гуляць, спецыяльна гасна стукнуў дзвярыма, а сам стаіўся за ганкам: пачакаю, думае, калі вартаўнік прыдзе да бабулі і пра мяне будзе расказваць.

Чакаць давялося нядоўга. Бачыць: выйшла бабуля на ганак, выняла з футляра бінокль і глядзіць у бок ракі і ў бок рову, дзе з дошак перакінуты гнуткія пераходы.

Падкраўся Паўлік і абхапіў бабулю рукамі.

— Ах ты, бабуля, вось які ў цябе вартаўнік, аказваецца!

**А. Шышоў**

„Ніва"
7.VII.1985 г.

# ПАГУЛЯЎ

### ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

— Вучыш?
— Ага!
— А я з футбола. Ну і гульня ж была!
— Ды ты што? Заўтра ж экзамен.
— Нашы выйгралі 2:0!
— Пра гэта ты раскажаш прафесару...
— Кінь ты сваё зубрэнне. Ведаў я такога, як ты, у навуковым гуртку пры кафедры псіхіятрыі займаўся. Пасля экзаменаў ён іншы раз сам на занятkі прыйсці не быў у стане. Зірнеш на яго, здрыганешся.
— А што такое?
— Зубры, зубры, даведаешся...

### ДЗЕНЬ ДРУГІ

— Ведаеце?
— Ведаю.
— Што ведаеце?
— Нашы выйгралі 2:0.
— Прыемна пачуць гэта. Малайцы!
— А маглі забіць цэлыя тры.
— Ай, ай! Чаму ж яны так?..
— Дождж быў. Я вымак да ніткі, але дасядзеў да канца матча.
— Бедалага!
— Прафесар, пастаўце, калі ласка, добрую адзнаку.
— Цягніце другі білет.
— Як жа так? Нашы ж выйгралі 2:0.
— А вы, даражэнькі, прайгралі 0:2.
— !!!
— Наступны!..

П. Александровіч



На дзіка.






Увага! Зараз вылеціць птушка...

### У ВЫШЭЙШЫХ СФЕРАХ

— Калі я п'ю каву, то доўга потым не магу заснуць.

— А ў мяне наадварот. Калі я сплю, то ўвогуле не магу піць кавы.

### СПАДЧЫННАСЦЬ

Сын звяртаецца да бацькі:

— Памятаеш, ты расказваў мне, што тройчы правальўся на экзаменах і цябе выгналі са школы?.. Забаўна, што гісторыя паўтараецца.

### ЧАГО ЗАХАЦЕЛА

Жонка да мужа:

— І табе не сорамна цэлае лета ў халадку ляжаць?

— А ты б хацела, каб я зімою ў халадку ляжаў?!

### ШТО ЗНАЧЫЦЬ БАРАДА!

Сядзіць дзядуля ля клуба на лавачцы і расказвае:

— Раней, калі я хадзіў паголены, са мною ўсе праходжыя віталіся. „Добры дзень, дзед!" — казалі, месца ў аўтобусе давалі, а цяпер, калі завёў бараду, у аўтобусе даводзіцца стаяць, а тыя, што вітаюцца, кажуць: „Прывітанне, калежка"!..

Made in Zadrypanka.



Кар'ерыст скардзіўся, што службовыя ўсходы не можа замяніць: ліфтам.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Хансен плёўся па пустыні, знямагаючы ад смагі. І тут ён убачыў падарожніка.

— Вады! Вады! — прахрыпеў бедны Хансен.

— Вельмі шкадую, сэр, але я прадаю толькі гальштукі, — халодна адказаў той і пайшоў.

Няшчасны Хансен паплёўся далей і раптам убачыў невялікі аазіс з рэстаранчыкам. Хансен даслоўна ўпоўз у рэстаран і прашаптаў:

— Вады... Вады...

— Вельмі шкадую, — адказаў афіцыянт, — але мы не абслугоўваем наведвальнікаў без гальштукаў!

*

— Што б ты купіў сваёй жонцы на свята, Джон, маючы грошы Рокфелера?

— Ты лепш скажы, што б купіў сваёй Рокфелер, маючы мае грошы?!

*

Жаніх — багатай маладой, выходзячы з царквы:

— Буду з табою шчыры, дарагая: так удачна я даўно ўжо не жаніўся.

### НЕ МАЕ АДНАГО

Усе знойдзеш дэфіцыты
Ля ягонага карыта.
Усё хапае, набывае,
Вырывае, выбівае.
Ды не мае, несумненна,
Аднаго толькі — сумлення.

Язэп Кудзеля

З „Весніка Задрыпоніі"

### ПАДАРУНАК НАВАСЕЛЬЦАМ

На тры месяцы раней тэрміну здалі ў эксплуатацыю новы жыллёвы дом будаўнікі БЗУ-3,141. Гэта дазволіць жыхарам своечасова правесці і неабходныя рамонтныя работы.

### УМЕЛЫЯ РУКІ

20 катлет, 15 лангетаў і 10 шашлыкоў могуць нарыхтаваць з кілаграма чэрствага хлеба кулінары філіяла сталовай № 5 гор. Хітроўска.



Сучасны факір.

З чаго смяюцца суседзі.







Службовае з прыемным

# Курёзы

### КАНЦЭРТ ПАД НЕБАМ

Аўстрыйскі спявак Удо Яргене у былыя гады быў добра вядомы не толькі ў сваёй краіне, але і па-за яе межамі. Ды з узростам голас пачаў спадаць, трацячы былую моц і каларатуру. Яго канцэрты ўжо не карысталіся такой папулярнасцю, як было раней, значна радзей яго пачалі запрашаць здымацца ў кіно і на тэлебачанні. Што рабіць?

Удо Яргене праз друк заявіў, што намерыўся даць сольны канцэрт на снежнай вяршыне Альпаў, аб чым былі шырока праінфармаваны навакольныя турыстычныя атэлі. Ён закупіў верталёт, з дапамогай якога на Альпы, на вышыню больш як 4 тысячы метраў, паднялі піяніна. І вось у прызначаны дзень на незвычайны канцэрт да падножжа Альпаў сабраўся вялізны натоўп многіх тысяч людзей. Удо Яргенс, таксама ж падняты верталётам, у сваім белым смокінгу недзе пад воблакамі і. сам сабе акампануючы, на марозе 18 градусаў заліхвацка праспяваў некалькі сваіх любімых песень.

Здымкі пявучага пад самым альпійскім небам Яргенса ўзнялі такое зацікаўленне да яго асобы, што ў першыя пасля гэтага дні на яго канцэрты ўжо цяжка было дастаць білеты. Яго запрасілі выступіць па заходнегерманскаму тэлебачанню і далі згоду запісаць на пласцінку песні, выкананыя на вяршыне Альпаў.




Ніщто так не ўзвялічвае чалавека, як уласная думка пра сябе.